**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 37 (753) 11 верасня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Свята ўраджаю ў Бярозаўцы.**
Працяг на стар. 6.
*Фота Зм. Лупача.*



**Прыём прыватных абвестак_ №166**



## Просім адгукнуцца сведкаў дарожна-транспартнага здарэння

Дата здарэння – 06.08.2014 г;
Час здарэння – каля 22 гадзін;
Месца здарэння – 78-ы км аўтадарогі "Полацк-Глыбокае" (каля в. Гваздова Глыбоцкага раёна).
Наступствы ДТЗ – загінуў веласіпедыст;
*СведкаўздарэнняпрашузвяртаццаўГлыбоцкіраённы аддзел Следчага камітэту па адрасе: г. Глыбокае, вул. Леніна, 95, каб. №6, альбо патэлефанаваць на нумар: 5-04-07.*

**Ю.В. Лаўрыновіч,**
*следчы СА Глыбоцкага РАСК, капітан юстыцыі.*

## Дубровенскі раён

# З поля не вярнуўся

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам найбольш выпадкаў парушэнняў тэхнікі бяспекі працы з цяжкімі наступствамі фіксуецца ў айчыннай сельскай гаспадарцы.**

Не было яшчэ ніводнага жніва ў Беларусі, каб "бітва за ўраджай" не заканчвалася гібеллю людзей на палетках альбо на зернетаках. Толькі летась падчас уборкі ўраджаю загінулі ў полі 5 чалавек. У гэтым годзе, здавалася, уборачная кампанія пройдзе спакойна, але як на біду напрыканцы жніўня ў Дубровенскім раёне загінуў 50-гадовы камбайнер. Расследаваннем гэтай трагедыі занялася акрамя пракуратуры і тэхнічная інспекцыя працы Федэрацыі парфсаюзаў Беларусі. Як было ўстаноўлена, яшчэ не стары механізатар загінуў недарэчна, калі патрапіў пад колы ехаўшага заднім ходам аўтамабіля МАЗ. Вадзіцель перад уключэннем задняй перадачы паглядзеў у люстэрка задняга віду, але нікога не заўважыў. Пры шуме працуючага камбайна загінуўшы не пачуў слабы гукавы сігнал і рухаўся па полю неасцярожна, не заўважыў небяспеку на калёсах. У выніку адбылася непапраўная бяда, а каб болей не здаралася такіх горкіх здарэнняў, спецыялісты звярнуліся з прапановамі ва ўрад краіны прыняць пэўныя меры па прадухіленні новых выпадкаў вытворчага траўматызму. У заходніх краінах уся аўтамабільная тэхніка мае спецыяльныя гукавыя ўстройствы, якія аўтаматычна ўключаюцца і падаюць беcперапынны сігнал, калі рухаюцца заднім ходам. Калі і ў нас абсталюють усю дарожна-будаўнічую тэхніку падобнымі рэчамі, то работнікі перастануць гінуць падобным чынам, альбо атрымоўваць цяжкія траўмы. Дарэчы, у вобласці сёлета толькі за паўгода загінула на вытворчасці 10 чалавек, а яшчэ 31 застаўся калекам.

## Гарадоцкі раён

# "Дажынкі" на фоне праблем

■ Чэслаў Якубовіч

**Роўна на тыдзень пазней прыйшлося перанесці на пятніцу 26 верасня адкрыццё абласнога фестывалю-кірмашу і працаўнікоў сельскай гаспадаркі "Дажынкі".** Пра гэта паведаміў старшыня аблвыканкама Аляксандр Косінец непасрэдна ў Гарадку падчас сваёй чарговай рабочай інпекцыйнай паездкі на Дзень ведаў. Для жыхароў райцэнтра падрыхтоўка да хлебаробскага свята прынесла бытавыя нязручнасці, якія неўзабаве завершацца. Услед за іншымі аб'ектамі тут будаўнікі днямі здалі ў эксплуатацыю абноўлены аўтавакзал з абноўленым электронным табло і камп'ютарнай сістэмай продажу білетаў. На чарзе адкрыццё ўтульнага Дома культуры, не пазнаць стала цэнтральную плошчу, гарадскі кінатэатр і многія іншыя аб'екты сацыяльнай сферы, хоць многае рабілася ў спешцы аўральным метадам. Таксама ў райцэнтры завершаць неўзабаве адну з лепшых айчынных лыжаролерных трас, тут могуць трэніравацца біятланісты міжнароднага класа. Кіраўнік вобласці яшчэ паабяцаў гарадокцам, што іх мястэчка стане першым горадам-спутнікам Віцебска, пазней у райцэнтры пабудуюць не толькі басейн, але і Лядовы палац. Іншая справа, што на ўсё грошай проста ў бюджэце можа не хапіць, бо няпростая сітуацыя найперш у сельскай гаспадарцы. Гаспадаркі Прыдзвіння ў пачатку восені завінаваціліся толькі "Белнафтахіму" за пастаўкі паліва 140 мільярдаў рублёў. З-за недахопу саляркі шмат якія сельгаспрадпрыемствы не вялі сяўбу азімых. У доўг АЗС перасталі адпускаць гаспадаркам-даўжнікам нафтапрадукты. Па гэтай прычыне не толькі дажджы ў пачатку месяца перашкаджалі завяршыць уборку яравога рапсу, марудна ішла нарыхтоўка льнотрасты, затрымліваліся іншыя палявыя работы.

## Пастаўскі раён

# Не затупіліся косы майстроў

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад сваіх продкаў, цяперашняя вясковая моладзь не хоча займацца прысядзібнай гаспадаркай ды і працаваць на зямлі.**

Аднак многіх гараджан па-ранейшым цягне да родных мясцін, яны стараюцца не забываць сваіх спрадвечных каранёў. Вось і ў Пастаўскім раёне тры гады запар праводзіцца адкрыты чэмпіянат па ручным сенакашэнні, які сёлета набыў характар спаборніцтваў абласнога ўзроўню. Яго арганізаваў у ваколіцах роднай вёскі Жылінскія цяпер прадпрымальнік з Полацка Пётр Кароль. Узровень майстэрства касцоў настолькі вырас, што было вырашана выставіць каманду з Пастаўшчыны і на падобны адкрыты чэмпіянат Беларусі па касьбе, у якім удзельнічалі сярод больш 30 калектываў і майстры сенакашэння з Польшчы і Расіі. Неспадзявана для ўсіх дуэт пастаўскіх лепшых касцоў у складзе Мікалая Яльчыка і Валерыя Каліцкага выступіў вельмі ўдала і заняў высокае 2-е месца, уступіўшы толькі гаспадарам, камандзе Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе і праводзіўся V экалагічны фестываль "Спораўскія сенакосы-2014". Яго высокі статус пацвердзіў і міністр прыродных рэрусаў і аховы акружаючага асяроддзя Беларусі Уладзімір Цалко, які ўзнагародзіў пастаўчан дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Дарэчы, мясцовыя прызёры, абодва ў мінулым вясковыя хлопцы са шматдзетных сем'яў, з дзяцінства ўмелі і любілі касіць, хоць адзін у званні падпалкоўніка авіяцыі нядаўна пайшоў на пенсію, а другі выбраў прафесію настаўніка.

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЬ ТОЛЬКІ ВЫЙГРАЕ АД СВАЙГО НЕЙТРАЛІТЭТУ, КАЛІ ЎВЕСЬ ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ СТАЎ СУПРАЦЬ РАСІІ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Для нас, беларусаў, зразумела, вельмі непрыемна, што паміж бліжэйшымі суседзямі ідзе сапраўдная, пакуль "гібрыдная" вайна новага тыпу ў Данбасе. Ды і ў многіх сем'ях ёсць ва Украіне родныя і блізкія, якія жывуць на палаючай тэрыторыі, пакутуюць, а то гінуць там. Акрамя гэтага з сярэдзіны вясны ў нашу краіну ўжо прыехалі звыш 17 тысяч украінскіх грамадзян, ратуючыся ад вайны, многія сталі вымушанымі ўцекачамі.**

Некалькі разоў напрыканцы лета і ў пачатку восені беларуская сталіца неспадзявана стала адным з цэнтраў міжнароднай палітыкі. Спачатку ў Мінску, як вядома, прайшоў саміт лідараў Мытнага саюза з кіраўнікамі Украіны і Еўрасаюза, позна вечарам за закрытымі дзвярмі адбыліся вельмі складаныя і па-сутнасці безвыніковыя перамовы ўкраінскага і расійскага лідараў П. Парашэнкі і У. Пуціна. Услед за гэтым у сталічным Доме прыёмаў прайшлі зноў некалькі раўндаў перамоў кантактнай групы Украіна-Расія-АБСЕ.

Для нас, беларусаў, зразумела, вельмі непрыемна, што паміж бліжэйшымі суседзямі ідзе сапраўдная, пакуль "гібрыдная" вайна новага тыпу ў Данбасе. Ды і ў многіх сем'ях ёсць ва Украіне родныя і блізкія, якія жывуць на палаючай тэрыторыі, пакутуюць, а то гінуць там. Акрамя гэтага з сярэдзіны вясны ў нашу краіну ўжо прыехалі звыш 17 тысяч украінскіх грамадзян, ратуючыся ад вайны, многія сталі вымушанымі ўцекачамі. Трэба аддаць належнае беларускаму кіраўніцтву, бо насуперак негатыўнай рэакцыі Крамля яно праводзіць самастойную палітыку, паслядоўна падтрымлівае сяброўскія адносіны з Украінай і яе народам у найцяжэйшы перыяд іх гісторыі. Таму і з'явіўся важны прэзідэнцкі Указ № 420 "Аб знаходжанні грамадзян Украіны ў Рэспубліцы Беларусь".

Таксама не будзем адкладваць убок і эканамічны аспект узаемаадносін з нашымі суседзямі і важнымі гандлёвымі партнёрамі. Калі пацерпяць іх эканомікі (украінская народная гаспадарка ўжо адкінута на дзесяцігоддзі назад ды і ў Расіі сталі назірацца прыкметы эканамічнай рэцэсіі), то і беларусам прыйдзецца цяжка з-за зняншэння аб'ёмаў продаж нашай прадукцыі рускім і ўкраінцам. А пакуль трывожна і балюча назіраць за тым, як разгортваюцца падзеі, якія ўстрывожылі ўвесь свет.

Тое, што ідзе вайна ў Данбасе, на жаль, зусім невыпадкова. У дадатак зусім нядаўна многіх казахаў абурыла прагучаўшая таксама невыпадкова рэпліка крамлёўскага правадыра У. Пуціна на маладзёжным форуме "Селігер-2014" аб тым, што на іх зямлі ніколі не было дзяржаўнасці. Перад гэтым адыёзны маскоўскі палітычны клоўн У. Жырыноўскі прама прыгразіў казахам з імі разабрацца так, як цяпер разбіраюцца з "кіеўскай хунтай". У гэтым рэчышчы гучаць у ўплывовых палітыкаў Масковіі словы аб тым, што не існуе ўкраінскага і таксама беларускага народаў, гэта, па іх меркаванні, адна руская нацыя.

На жаль, сёлета ў горшы бок вельмі змянілася сама Расія, там пачалося пасля анексіі Крыма сапраўдная фашысцкае прасоўванне ідэй "русского мира". У сакавіцкай прамове ў Крамлі з нагоды далучэння крымскіх земель былы кадэбіст У. Пуцін гаварыў аб унікальных перавагах генетычных кодаў рускай нацыі і быццам бы звышдухоўнасці расіян. З дапамогай найперш тэлебачання вядзецца па рэцэптах нацысцкай Германіі апрацоўка насельніцтва на расійскіх прасторах, што быццам "рускія лепшыя за ўсіх" і маюць права абараняць рускамоўных сваіх братоў. А раз так, то Крэмль ужо шантажуе ўвесь свет і нават у тэлефоннай размове пагражае Брусселю, што за два тыдні возьме Кіеў.

Пакуль жа проста агідна слухаць, як ганебна хлусяць усе – Пуцін, тыя ж Чуркін, Чыжоў, іншыя дзеячы крамлёўскага пула, сёння ўсе, як па падбор, прававерныя праваслаўныя аб тым, што ніякіх іх войск у Данбасе няма і ніякай ваеннай аперацыі з удзелам расійскіх дэсантных дывізій не праводзіцца. Яны там проста "блудзяць", а ваюць рускія афіцэры-патрыёты падчас сваіх водпускаў, як добраахвотнікі. Хоць па ўсіх армейскіх канонах любы вайсковец перад уходам у адпачынак піша рапарт, дзе ён будзе яго праводзіць. Пуцінская аперацыя "Наваросія" ставіць мэтай дабіцца найперш пакарання ўкраінцаў за іх разварот у бок Еўропы, таксама ўвядзення знешняга кіравання Данбасам, а на магчымыя страты і цяжкасці для расійскай эканомікі, падобна на тое, не звяртаюць увагі ў крамлёўскіх кабінетах.

Тым часам, пра што варта задумацца, пакрыху Еўропа спаўзае ўсё больш на мяжу пачатку новай вялікай вайны, калі сітуацыя далей будзе толькі пагаршацца. Аб простых людзях ніхто не думае, у самім мільённым Данецку засталося менеі 300 тысяч жыхароў. У гэтым рэгіёне так і не пачаўся новы навучальны год і балюча назіраць за тым, што там адбываецца. Цывілізаваны свет не можа зразумець, як так можна Расіі ў XXI стагоддзі вайной супраць Украіны так груба ігнараваць міжнароднае права. Аднак пакуль адно зразумела, што гэта пуцінская агрэсія – сапраўдны імперыялізм і ніхто не ведае, як далёка можа пайсці далей цяперашні гаспадар Крамля.

### Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 11.09.14 | | | | Пятніца 12.09.14 | | | | Субота 13.09.14 | | | | Нядзеля 14.08.14 | | | | Пн.15.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +14 | +21 | +17 | +14 | +15 | +22 | +17 | +14 | +14 | +23 | +16 | +13 | +14 | +22 | +16 | +14 | +13 | +21 |
| Ціск | 751 | 753 | 753 | 753 | 753 | 754 | 754 | 754 | 754 | 755 | 755 | 755 | 755 | 756 | 755 | 755 | 755 | 755 | 754 |
| Вільготнасць | 87 | 95 | 63 | 83 | 91 | 91 | 56 | 79 | 86 | 85 | 42 | 76 | 86 | 87 | 49 | 83 | 92 | 100 | 62 |
| Вецер м/сек | 2 У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 2 У | 1 Пд | 1 Пд | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-З | 1 Пд | 1 Пд | 1 У | 1 Пд | 1 Пд | 1 Пд | 1 У | 1 Пд | 0 ШТЛ | 1 Пн-З |

## Дзень за днём

**Да канца года Беларусь павінна выплаціць яшчэ больш 3,5 млрд. долараў знешняга доўгу, які стаў расці. Еўропа не бачыла з часоў II Сусветнай вайны такога рэзкага абвастрэння абстаноўкі пасля непрыкрытага ўварвання расійскіх войск у Данбас. Толькі ў 7 раёнах, у сталіцы, Наваполацку і Гродне зарплаты людзей вышэйшыя, чым у сярэднім па краіне. Сярэднія заробкі мінчан сталі ўжо на 2 млн. рублёў большыя, чым у беларускіх рэгіёнах. У прымусовым парадку з Беларусі сёлета дэпартыравалі ўжо 1500 замежных грамадзян, а 2,5 тысячы пазбавілі дазволаў на часовае пражыванне. За апошнія 20 гадоў у краіне закрылі каля 2-х тысяч школ.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсакратар НАТО А. Расмуссен адзначыў, што войскі і тэхніка Расіі зноў нелегальна перасяклі граніцу Украіны, альянс абвінавачвае Маскву ў злосных дзеяннях.

**Канада.** Краіна гатова адстойваць свае інтарэсы ў Арктыцы сілай, як заявіў глава МЗС Джон Бэрд, калі Расія прадоўжыць нарошчваць у паўночных шыротах свае войскі.

**ЗША.** Вядомы паліттэхнолаг Даг Шоэн заклікаў Б. Абаму ўвесці яшчэ больш жорсткія санкцыі супраць Расіі і аказаць Украіне рэальную значную ваенную дапамогу.

**Польшча.** Намеснік старшыні Еўрапарламента Рышард Чарнецкі прапанаваў ЕС зменшыць закупкі расійскага газу і нафты, каб спыніць агрэсіўную палітыку У. Пуціна.

**Швейцарыя.** Урад краіны далучыўся да дадатковых новых санкцый супраць Расіі, яе банкаў, у сферы здабычы нафты і газу, улічваючы яе ваенную агрэсію ва Украіне.

**Сірыя.** Амаль кожны другі жыхар краіны, па дадзеных ААН, стаў бежанцам, у выніку грамадзянскай вайны 3 млн. чалавек уцяклі ў суседнія дзяржавы, 200 тысяч – забіта.

**Расія.** Чэсныя рускія журналісты выявілі, як ва Украіне ваявалі і загінулі пскоўскія дэсантнікі, якія нібыта выпадкова заблудзіліся і патрапілі на чужую тэрыторыю.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў прыгразіў, што яго краіна можа выйсці з Еўразійскага саюза, калі гэта дамова будзе пагражаць казахам стратай дзяржаўнай незалежнасці.

**Расія.** Камітэт салдацкіх мамаці ў Стаўрапольскім краі склаў спіс са 400 забітых і цяжка параненых на тэрыторы Украіны расійскіх салдат, Масква адмаўляе іх удзел у вайне.

**Польшча.** Прэм'ер-міністр Д. Туск заявіў, што польскія спецслужбы маюць доказы ўдзелу расійскіх войск у баявых дзеяннях ва Украіне, на вайну павінны паўплываць ЕС і НАТО.

**Азербайджан.** Прэзідэнт І. Аліеў папярэдзіў лідараў РФ, Беларусі і Казахстана, што Арменія можа ўступіць у іх арганізацыю ЕАЭС толькі без Нагорнага Карабаха.

**Расія.** Нават калі ўлады закрыюць усе 435 рэстаранаў сеткі McDonalds у 85 гарадах краіны, то кампанія страціць толькі 1 % абароту, але згубяць працу 37 тысяч расіян.

**Швейцарыя.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя запатрабавала ад урадаў краін свету забараніць рэкламу электронных цыгарэт, таксама шкодных сваімі парамі тытуню.

**КНДР.** Усіх працаздольных жыхароў паўгалоднай краіны ва ўзросце ад 7 да 60 гадоў абавязалі здаць агульнанацыянальны залік па фізічнай падрыхтоўцы, бегу, плаванні.

**Расія.** Эксперты ФІФА прапанавалі рускім скараціць колькасць гарадоў для прыёму чэмпіянату свету-2018 па футболе, бо не хопіць выдзеленых 20 млрд. $ на інфраструктуру.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Магілёў.** Віцэ-прэм'ер урада РБ А. Тозік заявіў, што ўсе выкладчыкі ў Беларусі абавязаны свабодна валодаць беларускай мовай, а кіраўнікі – яшчэ адной з замежных моў.

**Гомель.** За атрыманне хабару віскі і рыбы Вярхоўны суд РБ прыгаварыў да 13 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці былога намесніка старшыні суда Савецкага раёна горада.

**Мінск.** Услед за Расспажыўнаглядам і прэзідэнт Расіі У. Пуцін абвінавацiў Беларусь у кантрабандзе, што праз беларускую тэрыторыю завозяцца забароненыя прадукты харчавання.

**Крычаў.** Каля 9 гадзін раніцы ў райцэнтры па невядомых прычынах абрушыліся спартзал і сталовая будынка гімназіі 1979 года пабудовы, на шчасце ніхто з людзей не пацярпеў.

**Брэст.** Прэзентацыя РУП "Днепра-Бугскі водны шлях" атрымала станоўчую ацэнку ЕС, які дапаможа аднавіць водную магістраль ад Балтыкі ў Гданьску да Чорнага мора ў Адэсе.

**Барысаў.** У горадзе не пацвердзілася інфармацыя аб гібелі яго ўраджэнкі Н. Красоўскай, якая з мая стала ваяваць снайперам у шэрагах прарасійскіх баевікоў у Данбасе.

**Ліда.** Ноччу ў вёсцы Даржы згарэла льносушылка ААТ "Лідлён" з-за парушэнняў правіл эксплуатацыі цеплаагрэгатаў разам з 2 тонамі льнонасення новага ўраджаю.

**Маладзечна.** У міліцыю звярнуліся адразу 35 гараджан з заявамі аб пашкоджанні іх прыпаркаваных у дварах і каля дарогі аўтамашын групай зламыснікаў, якіх арыштавалі.

**Беразіно.** У выніку спрэчкі на падпітку ноччу ў вёсцы Арэшкавічы 34-гадовы беспрацоўны жорсткім чынам збіў да смерці свайго старэйшага 56-гадовага брата.

**Смаргонь.** Пасля 3 гадоў рэстаўрацыйных работ у канцы верасня адкрыецца Палац-сядзіба князёў Агінскіх 19 стагоддзя, у ім быў напісаны знакаміты "Паланез Агінскага".

**Гродна.** У адкрытай новай СШ № 39 набралася першакласнікаў на 13 класаў, у ёй можна заблудзіцца, бо працуюць 5 трэнажорных залаў і 2 басейны, але не хапае тут садзікаў.

**Мінск.** Упершыню ў лістападзе на міжнародным дзіцячым конкурсе песні "Еўрабачанне-2014" на Мальце Беларусь прадставіць 14-гадовая Надзя Місякова з песняй па-беларуску.

**Хоцімск.** Падчас пошукаў прапаўшага інваліда міліцыя выпадкова выявіла і знішчыла потым цэлую плантацыю дзікарастучай наркатычнай каноплі паблізу ракі Бесядзь.

**Мінск.** На ўласным сайце папулярная музычная група "Ляпіс Трубецкі" паведаміла аб спыненні сваёй дзейнасці, яна выступала 24 гады, выпусціла 13 студыйных альбомаў.

**Барысаў.** Украінскі легіянер ФК "БАТЭ" А. Якаўлеў заявіў, што пасля ўсіх падзей у Данбасе ён болей не прызнае Расію брацкай краінай, а рускіх – братамі, як было раней.

# З 17 верасня пражытачны мінімум у Беларусі разлічваецца па-новаму



■ БелТА

**Урад Беларусі зацвердзіў пражытачны мінімум для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва і Палажэнне аб парадку разліку бюджэту пражытачнага мінімуму па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах і ў сярэднім на душу насельніцтва.**

Такое рашэнне змешчана ў пастанове Савета Міністраў ад 4 верасня 2014 года нумар 865, якая ўступае ў сілу з 17 верасня, паведамілі ў прэс-службе беларускага ўрада.

Як адзначыла начальнік упраўлення комплекснага аналізу Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Тацціяна Юшкевіч, пастанова нумар 865 распрацавана ў адпаведнасці з артыкулам 5 закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўнення ў некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях вызначэння пражытачнага мінімуму».

Цяпер пражытачны мінімум складаецца з мінімальных набораў прадуктаў харчавання для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва; нехарчовых тавараў і паслуг, кошт якіх вызначаны як фіксаваная доля ў памеры 77 працэнтаў ад кошту мінімальнага набору прадуктаў харчавання.

«Наборы прадуктаў харчавання сфарміраваны на аснове норм фізіялагічных патрэбнасцей у харчовых рэчывах і энергіі для розных груп дарослага і дзіцячага насельніцтва. Прадуктовыя наборы адпавядаюць патрабаванням рацыянальнага харчавання і захоўваюць неабходную энергетычную каштоўнасць і хімічны састаў, — растлумачыла прадстаўнік міністэрства. — Фіксаваная доля вызначана на падставе афіцыйнай статыстычнай інфармацыі Белстата аб фактычных спажывецкіх расходах малазабяспечаных дамашніх гаспадарак за апошнія пяць гадоў (з 2009 па 2013 год уключна), а таксама за першы квартал бягучага года».

Паводле яе слоў, для вызначэння фіксаванай долі нехарчовых тавараў і паслуг улічваліся такія спажывецкія артыкулы расходаў малазабяспечаных дамашніх гаспадарак, як расходы на адзенне, абутак, тканіну; мэблю, прадметы бытавога прызначэння; асабістыя паслугі, прадметы асабістага карыстання; жыллёва-камунальныя паслугі; ахову здароўя; паслугі адукацыі; паслугі грамадскага транспарту; сувязь.

Палажэннем вызначаны парадак разліку бюджэту пражытачнага мінімуму, замацоўваецца перыяд дзеяння БПМ пры яго штоквартальным зацвярджэнні Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны (да гэтага часу зацвярджаўся рашэннем урада).

Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны БПМ па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах і ў сярэднім на душу насельніцтва будзе зацвярджацца (як і раней урадам) у цэнах апошняга месяца кожнага квартала. Так, БПМ на перыяд з 1 лютага па 30 красавіка - у цэнах снежня; з 1 мая па 31 ліпеня — у цэнах сакавіка; з 1 жніўня па 31 кастрычніка — у цэнах чэрвеня; з 1 лістапада па 31 студзеня — у цэнах верасня.

Кошт прадуктаў харчавання, што ўключаецца ў БПМ у сярэднім на душу насельніцтва, вызначаецца як кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання для сям'і з чатырох чалавек (мужчыны працаздольнага ўзросту, жанчыны працаздольнага ўзросту, хлопчыка ва ўзросце 13 гадоў і дзяўчынкі ва ўзросце 7 гадоў).

Парадак разліку расходаў на ўзносы і плацяжы не змяніўся для БПМ у сярэднім на душу насельніцтва і для БПМ працаздольнага насельніцтва.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У гаспадарках вобласці забеспячэннасць спецыялістамі знізілася да 91 %, асабліва не хапае на месцах галоўных заатэхнікаў і ветурачоў, хоць ёсць ветэрынарная акадэмія.

**Гарадок.** Да абласных "Дажынак" у раённым цэнтры здалі яшчэ адзін аб'ект – абноўлены ўнівермаг райпо, на яго рэканструкцыю і новае абсталяванне пайшло 16 мільярдаў рублёў.

**Талачын.** Праз 12 дзён актыўных пошукаў днём у адным з магазінаў раённага цэнтра знайшлася жывая і здаровая дзяўчынка-школьніца, якая пайшла з дому ў невядомым накірунку.

**Орша.** Былы абаронны завод "Лёс" выйшаў на максімальны выпуск да 6 адзінак у месяц новых камплектаў кабін для грозных ракетных комплексаў "Іскандэр".

**Новалукомль.** На мясцовай ГРЭС засталіся працаваць 14 кітайскіх спецыялістаў да заканчэння гарантыйнага тэрміну эксплуатацыі здадзенай парагенератарнай устаноўкі.

**Браслаў.** На 2015 год перанеслі работы па мадэрнізацыі вытворчых цэхаў філіяла ААТ "Глыбоцкага МКК" "Браслаўрыба", сёлета асвоілі толькі чвэрць сродкаў на праект.

**Полацк.** На трасе Віцебск-Лёзна затрымалі і канфіскавалі ў мясцовага прадпрымальніка больш 4 тон прадуктаў (чай, кофе, рыбныя кансервы), якія ён набыў у Расіі.

**Шуміліна.** Падчас вызнога прыёму грамадзян міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў падтрымаў паступіўшую прапанову аб увядзенні ў краіне Дня ветэрана.

**Глыбокае.** У новым навучальным годзе ў раёне ўпершыню селі за парты 420 хлопчыкаў і дзяўчынак, на рамонт школ было выдаткавана 3,9 мільярда рублёў, 1570 дзетак прынялі садзікі і яслі.

**Браслаў.** Пад раніцу на трасе Полацк-Браслаў ля вёскі Слабодка знайшлі цела, верагодна, збітага машынай мужчыны на выгляд пад 40 гадоў, пачаўся пошук вінойніка трагедыі.

**Паставы.** Да новага навучальнага года ў раёне ліквідавалі яшчэ 3 з закрытых 22 па вобласці малакамплектных школ, Банк развіцця РБ падараваў школьны аўтобус МАЗ.

**Лепель.** Раённы цэнтр упрыгожыў баннер ля касцёла святога Казіміра з выявай карты горада 18 стагоддзя, адшуканай гісторыкам, доктарам навук В. Голубевым у архіве НАН Літвы.

**Полацк.** За адны выхадныя ў рэгіёне адбыліся 3 пажары, двойчы гарэлі пабудовы ў горадзе, у бальніцу трапіў гаспадар дома, згарэў аўтамабіль ВАЗ у вёсцы Багатырская.

**Віцебск.** Нечакана для мясцовага 66-гадовага юрыста-праваабаронцы Б. Хамайды ім зацікавілася і зрабіла цікавае інтэрв'ю дзяржаўная газета-штотыднёвік "Народная газета".

**Расоны.** Другі год запар вучэбна-трэніровачны збор на базе фізкультурна-аздараўленчага комплексу "Старт" правяла юнацкая баскетбольная каманда Санкт-Пецярбурга.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



Ірына Стома

# Мурашовы з Курылавічаў

"История предков всегда любопытна для того, кто достоин иметь Отечество".

*Н.М. Карамзин.*

Язна і Глыбокае даволі доўгі час знаходзіліся ў адным Дзісненскім павеце. Спадзяюся, што наступны матэрыял будзе цікавы тым, хто не абыякавы да мінулага, да гісторыі родных мясцін.

Непадалёку ад Язна, сёння ўжо можна сказаць, што ў межах аграгарадка, знаходзіцца вёска Курылавічы. Яна мае даволі даўнюю і цікавую гісторыю. Але мне зараз хочацца падзяліцца тым, што знайшла ў апошні час пра адну сям'ю, якая мела адносіны да гэтай вёскі, да Язна і да Глыбокага таксама.

## Маёнтак Курылавічы... Гісторыя сям'і яго гаспадароў Мурашовых...

Маёнтак стаяў у вельмі прыгожым месцы, на высокім беразе рэчкі Іставіцы, высокі двухпавярховы драўляны будынак, спалены ў гады вайны партызанамі. Аб маёнтку сёння мала што нагадвае, хіба толькі былыя гаспадарчыя пабудовы, руіны былога млына, вялікае скляпенне на беразе Іставіцы, а яшчэ – пахаванні на двары Язненскай Спаса-Праабражэнскай царквы.

А вось пра гаспадароў маёнтка і сёння памятаюць старэйшыя жыхары Язна і Курылавічаў, навакольных вёсак.

Яўгеній Фёдаравіч і Надзея Віктараўна Мурашовы – апошнія гаспадары маёнтка Курылавічы. У свой час мне давялося слухаць аповеды маёй суседкі Федаровіч Ганны Андрэеўны, якая яшчэ падлеткам працавала ў панскім кароўніку. Яна многа і з вялікай цеплынёй успамінала гаспадара і гаспадыню, іх ветлівасць, інтэлігентнасць, чулыя адносіны да сваіх работнікаў, які парадак быў у гаспадарцы. Гэтыя ж якасці адзначалі і тыя, з кім мне давялося размаўляць. Нават крыху ніякавата становіцца: мы больш прывыклі ўяўляць паноў зусім іншымі: жорсткімі, сквапнымі, прыгнятальнікамі простага люду. А тут у людской памяці засталося толькі самае светлае і добрае.

У запісах язненскага святара а.Філіпа Лузгіна момантамі ўпамінаецца сям'я Мурашовых з рознай нагоды: грашовая дапамога пры рамонце царквы, праца ў школе пані, удзел яе ў розных мерапрыемствах. Са слоў Льва Мікалаевіча Глебкі з Курылавічаў ведаю, што Яўгеній Фёдаравіч меў вышэйшую адукацыю, у свой час скончыў Ціміразеўскую акадэмію па спецыяльнасці агранома і спецыяліста лясной гаспадаркі. Сваю гаспадарку ён вёў па навуцы. Меў статак у 40 кароў і кожная давала па 20 і больш літраў малака. Гаспадар лічыў, што трымаць жывёліну, якая б давала менш малака зусім не рацыянальна. На сваіх землях ён у той час збіраў па 180, месцамі па 200 пудоў зерня з гектара. Лічыў, што курылавіцкая зямля можа прыносіць і больш высокі ўраджай – 300 і больш пудоў. Гаварылі, што ў Яўгенія Фёдаравіча было шмат арандатараў зямлі і ён усялякі дапамагаў ім, асабліва ў цяжкія гады недароду - надзяляў элітным пасяўным насеннем, падтрымліваў матэрыяльна. Яго жонка – Надзея Віктараўна засталася ў памяці старэйшых жыхароў, яе вучняў, таленавітай выкладчыцай Язненскай школы па выяўленчым мастацтве і музыцы, удзельніцай і пастаноўшчыцай спектакляў, святочных пастановак. Мурашовы апекавалі школу, патраніравалі харчаванне дзяцей. Былы вучань Антон Віктаравіч Фурс с Паставаў, якому зараз за 80-т гадоў (яго імя неаднойчы было на старонках газеты) і сёння памятае, як кожны дзень з маёнтка прывозілі флягу свежага малака і надзвычай смачныя, духмяныя, цёпленькія яшчэ булачкі.



Здымак на фоне панскага дома ў Курылавічах. Панская сям'я і арандатары. У цэнтры сядзяць: В. Д. Нікіціна (Мурашова), яе ўнук, прафесар Нікіцін В.В., Н.В.Мурашова, за маці стаіць Я.Ф.Мурашоў.

## Лёс сям'і Мурашовых за савецкім часам мала чым адрозніваецца ад лёсу многіх заможных уласнікаў.

Надзея Віктараўна з прыходам Чырвонай Арміі выехала ў Югаславію да маці свайго мужа. Сам Мурашоў застаўся ў Курылавічах, спадзеючыся на тое, што ён нікому зла не рабіў, а толькі дапамагаў усім, хто быў у бядзе. Але ў канцы 1939 года Яўгеній Фёдаравіч быў арыштаваны і кінуты ў вельмі страшэнную турму НКВД у Беразвечча каля Глыбокага. Там, не вытрымаўшы здзекаў, кінуўся ў гарэўшую топку і загінуў.

Неаднойчы язненскі святар упамінае ў сувязі з сям'ёй Мурашовых імя Нікіціна Васіля Васільевіча, прафесара, доктара мінералагічных навук, выкладчыка Люблянскага ўніверсітэта ў Югаславіі і яго жонкі Веры Дзмітрыеўны – маці Яўгенія Фёдаравіча Мурашова. Яны вельмі часта прыязджалі ў Курылавічы, сябравалі з айцом Філіпам, гасцявалі ў яго ў Язна, дапамагалі грашыма ў рамонце нашай царквы. Стала цікава, якім чынам маглі стварыць сям'ю людзі, якія здаецца такія розныя: ён – знакаміты ва ўсім свеце вучоны, таленавіты вучань прафесара Пецярбурскага Горнага інстытута Е.С. Фёдарава, выкладчык гэтай жа вышэйшай установы, настаўнік многіх вядомых расійскіх і савецкіх вучоных – мінералогаў; яна – маці пана з маёнтка Курылавічы Дзісненскага павета, яе муж і бацька Яўгенія Федаравіча, Мурашоў Фёдар Іакінфавіч пахаваны ў Язне, на царкоўным двары.

У пошуках разгадкі дапамог Інтэрнэт. Знайшла звесткі пра брата Мурашова Яўгенія Фёдаравіча – Дзмітрыя. З яго біяграфіі, якая маецца ва Усерасійскім геалагічным інстытуце вядома, што Дзмітрый Фёдаравіч Мурашоў (1889 – 1961? гг.) – доктар геолага – мінералагічных навук, выкладчык Ленінградскага горнага інстытута, узнагароджаны ордэнам Леніна і Сталінскай прэміяй.

Навуковыя і практычныя пошукі Дзмітрыя Фёдаравіча былі звязаны з Алтаем, Уралам, раёнамі Заходняй Сібіры, але асноўная праца Мурашова гэта Кольскі паўвостраў – вызначэнне перспектыў нікеляносасці гэтага рэгіёна. У пастанове аб прызначэнні Сталінскай прэміі другой ступені сказана: узнагароджваецца Мурашоў Дзмітрый Фёдаравіч, кіраўнік работ, доктар геолага-мінералагічных навук, геолаг Ленінградскага геалагічнага ўпраўлення, за адкрыццё буйных жалезарудных радовішчаў на Кольскім паўвостраве, забяспечыўшых стварэнне сыравіннай жалезаруднай базы для паўночна-заходняй чорнай металургіі. Сума ўзнагароджання па тым часе вельмі значная – 100 000 рублёў. Адкрыцці Ф.Д.Мурашова і сёння ў сучаснай Расіі не страцілі сваёй значнасці.

У 1948 годзе Міністэрствам геалогіі СССР Дзмітрый Фёдаравіч Мурашоў назначаны галоўным куратарам па нікелю і яму было прысвоена ганаровае званне "Дырэктар Геалагічнай службы".

Нягледзячы на свае заслугі, ён двойчы быў рэпрэсіраваны, але апраўданы за недаказаннасцю абвінавачанняў, а можа таму, што быў вельмі патрэбным чалавекам дзяржаве, якога цяжка было кім-небудзь замяніць.

У біяграфіі сказана, што нарадзіўся ён у інтэлігентнай сям'і. Бацька – вядомы рускі вучоны–хімік, маці медыцынскі работнік. Пасля нараджэння сына (у канцы 90-х гадоў XIX стагоддзя) бацькі пераехалі з Рыгі ў Пецярбург, дзе Дзмітрый закончыў гімназію і Горны інстытут. Дарэчы, у гэты час там працаваў Нікіцін В.В.

Характарызаваўся Д.Ф.Мурашоў, як чалавек выключна сціплы, разумны і абаяльны. У свой час ён адзначаў, што добрае выхаванне і веданне некалькіх замежных моў атрымаў дома ў сям'і. Вучоны быў даступны любому. У Вялікую Айчынную вайну Дзмітрый Фёдаравіч страціў двух сыноў на Ленінградскім фронце. У яго заставаўся ў жывых толькі пляменнік Аляксандр Яўгенавіч Мурашоў, выкладчык Люблянскага ўніверсітэта ў Югаславіі, сын Яўгенія Фёдаравіча з Курылавічаў.

Як бачна, у лёсы ўсіх гэтых людзей уплецены Пецярбург, Горны інстытут, мінералогія і Любляны. Не можа ўсё гэта быць простым супадзеннем. Тады магчыма высnova, што на царкоўным двары пахаваны Мурашоў Федар Іакінфавіч (1866-1906 гг.), які названы ў біяграфіі сына Дзмітрыя Фёдаравіча вядомым расійскім вучоным– хімікам канца XIX стагоддзя. А яго ўдава Вера Дзмітрыеўна Мурашова стала жонкай вучонага мінералога, магчыма сябра сям'і, Нікіціна Васілія Васільевіча і разам з ім у гады рэвалюцыйных падзей у Пецярбургу выехала ў Югаславію. Там у гэты час сабралася вялікая колькасць знакамітых рускіх вучоных, эмігрыраваўшых з рэвалюцыйнай Расіі. Югаслаўскі кароль Аляксандр I сам апекаваў рускіх вучоных-эмігрантаў, стварыўшы ім усе неабходныя ўмовы для навуковай і практычнай дзейнасці. Таму і паехала Надзея Віктараўна Мурашова з Курылавічаў у вельмі неспакойны час да свекрыві ў Любляну.

Яшчэ ў дзяцінстве мне давялося чуць такі выраз: "Тоўсты, як Бэер". Аказваецца і гэта прозвішча таксама мае адносіны да сям'і Мурашовых. Бэер Віктар Сцяпанавіч – бацька Надзеі Віктараўны Мурашовай. Чалавек быў вельмі поўны, адсюль і з'явіўся ў нашых мясцінах гэты выраз – параўнанне.

Асоба Віктара Сцяпанавіча таксама даволі цікавая. Дзесьці ў 20 – 30-х гадах мінулага стагоддзя ён працаваў выкладчыкам спеваў у Віленскай духоўнай семінарыі. Са слоў аднаго з семінарыстаў, меў кансерваторскую адукацыю, у мінулым быў оперным і эстрадным спеваком, які прывык спяваць у суправаджэнні аркестра ці раяля, але слаба валодаў дырыжорскімі здольнасцямі да кіраўніцтва царкоўным хорам з яго асаблівай спецыфікай. Чалавек не багаты, жыў толькі на свой выкладчыцкі заробак. Апошнія гады свайго жыцця Віктар Сцяпанавіч Бэер правёў у маёнтку Курылавічы, дзе і памёр. Пахаваны ён на царкоўным двары Язненскай Спаса – Прэабражэнскай царквы.

Многа яшчэ загадак у гісторыі сям'і Мурашовых, якая, хай не вельмі цесна, але ўсё ж такі была звязана з нашай вёскай і яе жыхарамі. Напрыклад, невядома, калі і якім чынам маёнтак, які быў раней дзяржаўнай уласнасцю, стаў уласнасцю сям'і з Пецярбурга? І чаму іменна Курылавічы? Можа таму, што ў Горным інстытуце ў той час працаваў дзядуля Глебкі Льва Мікалаевіча І Евы Мікалаеўны Астроўскай? Іх сем'і потым увесь час мелі добрыя зносіны. І яшчэ цікава, якім быў лёс другога сына Мурашова – Вадзіма Яўгенавіча. А можа знойдуцца яшчэ нашчадкі гэтай знакамітай сям'і, продкі якой пахаваныя ў нашай язненскай зямлі?



Здымак на фоне кароўнікаў, гонару пана Я.Ф.Мурашова. На першай фурманцы пані са свякроўкай і сынам, на другой – пан Яўгеній Фёдаравіч.

# “Гэты ружанец – адзінае, што ў мяне засталося ад даваеннага жыцця”



**Пра вёску Росіца, што ў Верхнядзвінскім раёне, мы ўжо не адзін раз пісалі на старонках нашай газеты. Коратка нагадаем чытачам гісторыю гэтай вёскі.**

**Падчас апошняй вайны 16—18 лютага 1943 года на Верхнядзвіншчыне прайшла антыпартызанская карная аперацыя «Зімовы цуд», у якой удзельнічалі 7 латвійскіх батальёнаў, адна ўкраінская і літоўская роты СС. Мэта аперацыі была – пазбавіць партызан падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва, знішчыўшы яго. Латышскія нацыяналісты пераследвалі таксама і сваю мэту – расчысціць тэрыторыю пад будучую «вялікую» Латвію. У гэтыя дні ў Росіцы былі спаленыя 1528 мірных жыхароў. Разам з імі ў агні загінулі каталіцкія святары Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Карнікі прапанавалі захаваць ім жыццё, але яны адмовіліся пакінуць сваіх парафіянаў і прынялі разам з імі мучаніцкую смерць.**

**У 1999 годзе Папа Ян Павел II абвясціў кс. Юрыя Кашыру і Антонія Ляшчэвіча блаславёнымі.**

**Мы гутарым са спадарыняй Валянцінай Марцінкевіч, 1933 года нараджэння, якая памятае гэту трагедыю. Яна прымала першую кумунію ксяндза Антонія і захоўвае ружанец, які атрымала тады з яго рук.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

**– Пані Валянціна, Вы памятаеце гэтых ксяндзоў?**

– Вельмі добра памятаю, я першую камунію ў ксяндза Антонія прымала. Хадзіла на катэхізацыю ў Росіцу, гэта было напачатку вайны.

**– А што Вам пра іх памятаецца?**

– Што вельмі добрыя былі, навучалі нас дзяцей, калі мы хадзілі на катэхізацыю. Казалі, каб мы верылі ў Госпада, маліліся. Добрыя былі ксяндзы.

**– А ўбранства касцёла ўжо перад вайной было разбуранае?**

– Я не ведаю, як там было. Як мы ўжо сталі туды хадзіць, там былі абразы, алтар быў убраны і ўсё было як належыць. А пасля вайны ўжо нічога не было. Там усё паломана было, зроблены склад, збожжа туды завозілі.

**– А гэтыя ж ксяндзы маглі выжыць?**

– Канечне, іх жа адпускалі, казалі ім едзьце адсюль. Але яны адмовіліся. Сказалі, мы не кінем сваю паству, сваіх парафіян.

**– А пасля вайны пра гэтых ксяндзоў памяталі?**

– Вы ведаеце, мала тады хто выжыў. Гэтых жа людзей усіх спалілі. Мала хто выжыў. З нашай вёскі выжылі тры сям'і. Нас у Кулакове палілі. Тое самае было, што ў Росіцы. Загналі людзей у школу, у хлеў. Мужчын асобна закрылі ў хлеў, а жанчын з дзецьмі ў школе палілі. А да нас прыйшоў нейкі немец з перакладчыкам, нешта доўга гаварылі, памятаю, ужо сонца заходзіла. А вёска гэта Кулакова вялікая была, шмат народу было сагнана. Калі нас туды прывялі, школа была поўная жанчын з дзецьмі, нас пасадзілі непадалёк ад дзвярэй, сядзелі мы на падлозе.

І вось доўга яны нешта гаварылі і немец сказаў да нашых мам: “Вось вы, вы і вы - выходзьце на вуліцу!” І мы тады выйшлі, стаіць конь запрэжаны, нас пасадзілі і сталі весці ў Бігосава. А школа ўжо была абліта бензінам, па ёй застрачылі, відаць, запальнымі кулямі, адразу ўзнялося полымя. А мужчыны былі ў хляве, ён таксама загарэўся. Мы тут сталі плакаць, крычаць, да нас падбег паліцай з плёткай: Калі не замоўкнеце, то і вы там будзеце, і вас туды зараз закінем.” Не ведаю, ці так ужо ад Госпада трэба было, што пакінулі гэтыя тры сям'і, а астатнія ўсе згарэлі. Ну, пасля вайны некаторыя вярнуліся, з тых трох сямей дзве вярнуліся, а адна сям'я недзе ў Сібіры засталася жыць, там у іх былі нейкія сваякі. А ў нас са сваіх нікога не засталося, хто згарэў у Росіцы, хто ў Кулакове.

**– Але ж пра гэтых ксяндзоў людзі ведалі?**

– Так, ведалі. Усе ж пра гэта гаварылі, і мы ўсім казалі, што яны згарэлі разам з людзьмі. Там і мая цёця, маміна дваюрадная сястра з дзецьмі, і яшчэ адна сваячка з дзецьмі… Гаварылі, усе адзін аднаму распавядалі. Але ўлады пра гэта не гаварылі.

**– А памятаеце, як звалі гэтых ксяндзоў?**

– Антоні Кашыра і Юрый Ляшчэвіч. У мяне і здымкі іх ёсць.

**– А праўда, што Вы захоўваеце ружанец, які вам падарыў нехта з гэтых ксяндзоў?**

– Так, ёсць. Мне ксёндз Антоній падарыў гэты ружанец і абразік, калі я прымала першую камунію.

Нас як павезлі тады на санях у Бігосава, ужо ноч была. Прывезлі на чыгуначную станцыю, а там поўна народу, стаяць таварныя вагоны і туды заганяюць людзей. І нас загрузілі, вагон біткам набіты, дзеці маленькія былі, проста павярнуцца неяк было. Дзверы забілі, каб не адчыняліся, адно маленькае акенца было, і яго забілі таксама. Дыхаць нечым. Пакуль везлі нас да Саласпілса, колькі дзетак маленькіх памёрла ў гэтым вагоне! Можа тры дні туды ехалі, бо ўвесь час прыходзілася прапускаць ваенныя эшалоны.

І вось прывезлі нас у канцлагер, у мяне абразік гэты і ружанец быў з сабой. Загналі нас у барак, і мы цэлую ноч сядзелі на голай цэментнай падлозе. А людзей таксама быў поўны барак. Ужо пад раніцу прыйшоў немец і сказаў усім раздзявацца, пагонім вас у лазню. Праўда, у бараку сказалі пакідаць верхняе адзенне, а раздзявалі нас ужо ў лазні. А ў лазні ўжо ўсіх раздзелі, рэчы нашы забралі, у каго зубы залатыя, то павыдзіралі, паздымалі завушніцы залатыя, ланцужкі, усё-ўсё пазабіралі, цэлыя скрынкі стаялі з гэтым. Сумку маю таксама адабралі, там быў гэты абразік, малітоўнік, яшчэ нешта. Гэта яны ўсё забралі. А ружанец я зацiснула ў далонь, і так у лазні з ім і памылася. Якое там мыццё было! Нейкай атруты ядавітай насыпалі ў ваду, і мы мыліся. Пасля доўга шчыпалі і вусны, і нос ад гэтага. А пасля лазні ўсіх голых як маці нарадзіла пагналі зноў у барак, голых па снезе ў лютаўскі мароз. А было тады градусаў дваццаць, а можа і больш. Загналі нас у барак і амаль суткі нічога не давалі надзець, крыху саломы патрэслі, і так мы сядзелі на цэментнай падлозе на гэтай саломе. І толькі ўжо раніцай прынеслі нам халаты і нейкія тапкі.

**– А колькі Вы прабылі ў гэтым лагеры?**

– У лагеры я прабыла недзе да ліпеня-месяца.

**– І што Вы там рабілі, працавалі?**

– Каму ж там было працаваць, мне толькі дзесяць гадоў было. І там у асноўным былі дзеці. Дарослых і больш дзяцей адтуль забралі. І маму маю таксама. А перад гэтым забралі малых дзяцей, якім па два – тры гады было. І маю сястру маленькую тады забралі. А куды павезлі, невядома, Бог яго ведае куды. Усе плакалі, дык жа і плакаць не дазвалялі, білі тады плёткамі. Дык плакалі ціха, каб ніхто не чуў і не бачыў. Пасля сястры маму забралі, павезлі. Мы засталіся з дваюрадным братам. І прабылі ў гэтым канцлагеры да ліпеня. Голад, есці няма чаго, хадзілі на сметнік. Там выкідвалі шалупіны ад бульбы, яны ўжо паплесненыя ці яшчэ што. Гэта выкідвалі аб'едкі ад начальства, ад наглядальнікаў, а мы ўсё гэта збіралі і елі. Ужо ляжала, ногі былі ацёкшыя, нават хадзіць ужо не магла.

**– А хто былі гэтыя начальнікі латышы ці немцы?**

– І латышы былі, і немцы. Пасля нас ужо перавезлі ў іншае месца, і нас сталі браць на працу гаспадары, латышы. А што ў таго гаспадара? Мне дзесяць гадоў, а трэба было падаць восем кароў. Вось бачыце, якія ў мяне рукі. Ужо зусім ніякія сталі, нямеюць, а гэта ж усё ад той працы. Дзеці ў тых латышоў ужо дарослыя былі, у Германію выехалі, а яны засталіся, пажылыя мужык з жонкай. Спачатку гаспадыня мне дапамагала, пакуль я навучылася, а пасля я ўсё сама рабіла. Малако трэба было ў бітонах цягнуць на такой цялежцы аж у крыніцу. У абед, як прыганю кароў, трэба было палоць ісці. Здзекаваліся, як хацелі. Але ўсё ж хоць кармілі добра, што самі елі, тое і мне давалі. А былі і такія, што кармілі асобна, дадуць абы што - і еш.

**– А засталася ў вас крыўда на латышоў?**

– Ну, не ведаю, як сказаць. Нешта ёсць. Тады ж яны палілі тут вёскі. Вось і Ворзава, дзе я цяпер жыву згарэла, і Росіцу спалілі, мы ў сваёй вёсцы чулі, як плакалі дзеці, як стралялі, як крычалі, проста нават ноччу было спаць немагчыма. А мой дзядзька Ваня, бацькаў брат, ён быў старшынёй калгаса, а мужчын тады амаль не было ў вёсцы, сказаў, што трэба ісці ў лес, а то і нас спаляць. І пайшлі мы, толькі засталіся, хто не мог ісці. Вось нашы суседзі засталіся, сям'я, мужык зусім не мог уставаць, і жонка была хворая. І дачка ў іх была маладая, засталася, сказала, што не кіне хворых бацькоў. Дзядуля мой застаўся, таксама стары, яшчэ там хтосьці застаўся, чалавек дваццаць. А мы пайшлі ў лес. Толькі рэчку перайшлі, а нам насустрач эсэсаўцы, з сабакамі, за імі танкі ідуць. Акружылі нас і пагналі ў Кулакова, дзе палілі. І пасля, як нам расказалі, наша вёска стаяла яшчэ тыдзень-другі, пакуль не прыехалі латышы. Яны забралі нашу скаціну, мы ўсё ж пакінулі былі, з сабой узялі толькі бохан хлеба і кусок сала. Дык вось гэтыя латышы прыехалі, усё наша забралі, скаціну і рэчы, а вёску спалілі. І людзей спалілі, што засталіся. Дзядуля мой тады згарэў.

**– А вось гэты ружанец, ён з вамі ўсю вайну прайшоў?**

– Так, усю вайну, я зараз вам яго пакажу. Я яго берагу, бо ён у мяне адзін застаўся, усе ж мае рэчы ў канцлагеры забралі. Мяне толькі Бог і выратаваў. Я ж ужо памірала ў канцлагеры, ляжала і падняцца не магла, ад голаду апухшая. Малілася ціха ўначы, каб ніхто не пабачыў. І Бог мяне выратаваў, падаслаў мне адну польку, якая працавала на кухні ў немцаў. Не ведаю, за што яна мяне палюбіла, але яна прыносіла мне ноччу, каб ніхто не бачыў, то якога супу, то хлеба кавалак. Кажа, дзетка, я цябе так шкадую, можа таты як-небудзь выжывеш. І так я патроху акрыяла, пасля трапіла да гаспадароў на працу, там ужо добра кармілі. Аже ж і працаваць трэба было там, а мне толькі дзесяць годзікаў было!

І пасля вайны мяне Бог не раз ратаваў. Вось раскажу адзін выпадак. Нялёгка тады пасля вайны было. Мама хворая пасля канцлера была, трэба было і сена касіць, і дровы сячы. Усё сама рабіла. Памагчы ж было некаму, вакол - чужыя людзі. Абуць не было чаго, а ў школу трэба было хадзіць аж у Бігосава. У Росіцы тады школы яшчэ не было. А прыйшоўшы са школы, трэба было дома ўсё парабіць. І вось мне адзін мужчына даў кірзавыя боты, кажа, бяры, едзь пад Бігосава да шаўца, ён табе іх перашые і будзеш насіць. І я паехала туды на лыжах. Гэта было пасля абеда. А дамоў варочалася, ужо змяркалася. Ехала я праз спаленыя вёскі, дзе ўжо нічога не было. І вось чую, нешта шабуршыць. Азіраюся, а за мной зграя ваўкоў гоніцца. Ну, усё, думаю, разарвуць зараз мяне, і мама не будзе ведаць, што са мной. І бачу: яма пад ёлкай, можа ад бомбы, я ў яе і скочыла з лыжамі. Думаю, Госпадзі, твая воля. Ляжу, малюся. А яны паглядзелі на мяне і пайшлі назад па маім следзе. Ну, я яшчэ нейкі час ляжала, малілася, потым ужо паехала дадому. Гляджу, ваўкі павярнулі ў вялікі лес. Думаю, дзякуй табе, Божа, выратаваў мяне. Дамоў прыехала, ужо цёмна было, мама плача, пытаецца, дзе была. Я ёй і кажу, што толькі Бог мяне ўратаваў.

Пасля невялікай паўзы спадарыня Валянціна кажа:

А яшчэ ў мяне вершы ёсць. Я пісала і пра вайну, і пра ксяндзоў гэтых, якіх спалілі, і пра маму.

*Вершы напісаны ў асноўным па-руску. Пад адным з вершаў стаіць дата і назва горада – Душанбэ.*

**– А Вы што, у Душанбэ былі?**

– Так, сястра туды была выйшла замуж, і мы таксама пераехалі да яе. А ўжо ў пачатку 90-х, як пачалася ў іх там вайна, вярнулася на радзіму.

**– А кім вы працавалі ў Душанбэ?**

– На пошце, на сарціроўцы карэспандэнцыі.

**– І доўга вы там жылі?**

– Вось у 1974 годзе памерла мая мама, а ў 1975-м мы пераехалі. І жылі там да 1991-га.

*На заканчэнне спадарыня Валянціна прачытала верш, які прысвяціла ксяндзу Вячаславу Пялінку, які некалькі гадоў таму працаваў у Росіцы. Верш можа і не зусім дасканалы з паэтычнага погляду, але ж ад шчырага сэрца. Называецца ён*

**Сардэчная ўдзячнасць**



*Госпаду хвала і слава,*
*Што паслаў нам Вячаслава!*
*Ён часу і сіл не шкадаваў,*
*Ездзіў грошы здабываў.*
*Каб касцёл наш аднавіць,*
*Людзям радасць падарыць.*
*І вось, цуд у Росіцы адбыўся –*
*І касцёл наш аднавіўся!*
*Хвала ідзе аж да нябёс,*
*Нібы з мёртвых ён уваскрос.*
*Ён стаіць, як пелікан,*
*Ідуць пілігрымы з усіх стран.*
*Каб тут Богу памаліцца,*
*Блаславлёным пакланіцца,*
*Усім спаленым паклон аддаць,*
*Заўсёды святую Тройцу*
*праслаўляць.*
*Мы шлём падзяку і хваленне*
*Усім пастырскім чынам.*
*Пашлі, Божа блаславленне*
*Усім тым, хто памог нам.*
*Дык хай жа будзе Богу слава,*
*Усім ксяндзам і Вячаславу.*

Спадарыня Валянціна доўга развітваецца і просіць не забываць яе, наведаць яшчэ раз. Яна абяцае яшчэ шмат што распавесці. Спадзяёмся, што мы пастараемся выканаць яе просьбу і яшчэ раз з ёй сустрэцца.

